



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (1140) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 1 СТУДЗЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*Пераможца конкурсу Янка Сурэль з Гайнаўскага беларускага ліцэя.*



*Другое месца заняла Міраслава Лукша з Гайнаўскага беларускага ліцэя.*



*Аліна Сельвясюк з Гайнаўскага беларускага ліцэя заняла трэцяе месца.*

## Удалы

Аб'яўлены яшчэ ўвосень 1976 г. чытальніцкі конкурс **„Знаёмімся з сучаснай беларускай літаратурай“**, арганізатарамі якога была Ваяводская **публічная** бібліятэка, Галоўнае праўленне БГКТ і „Ніва“, закончыўся ваяводскімі элімінацыямі 11 снежня 1977 г. Хоць і цягнуўся ён крыху задоўга, затое парадаваў вынікамі. Ахапіў ён значны абшар Беласточчыны, і ўдзел у ім прыняло каля 400 асоб. А варта ж мецъ на ўвазе факт, што **конкурс праводзіўся толькі па творчасці тых аўтараў, якія ў Народнай Польшчы пішуць пабеларуску.** Сярод 11 удзельнікаў фінальных элімінацый аснову склалі прадстаўнікі гайнаўскага і бельскага белліцэяў і шляхетная барацьба за першынства разыгралася толькі паміж імі. Журы элімінацый у складзе Л. Гардзеюк з Бельскай гарадской бібліятэкі, Н. Панасюк з Галоўнага праўлення БГКТ пад старшынствам М. Гайдука з „Нівы“ было толькі арбітрам у гэтым змаганні. Арбітраж жа той быў на самай справе адной прыемнасцю, бо ўдзельнікі элімінацый паказалі вельмі высокі ўзровень ведаў і ўменняў іх інтэрпрэтацыі.

Проста нельга было не захапляцца тым, што ўдзельнікі элімінацый задэманстравалі проста энцыклапедычную дакладнасць у веданні значных і малых фактаў і падзей у звыш дваццацігадовай гісторыі літаратурнай творчасці на беларускай мове ў Народнай Польшчы. Яны як з рукава сыпалі датамі паяўлення альманахаў, калектыўных і індывідуальных зборнікаў твораў „белавежцаў“, факты з жыцця паасобных аўтараў, зместам не толькі вялікіх па памерах твораў, але нават і кароценькіх вершаў, цытатамі вялікіх урыўкаў. Выказванні былі цікавыя і свежыя — не аднаму з нашых літаратурных крытыкаў можна было б у іх павучыцца арыгінальнасці ў падыходзе і пранікнёнасці ў аналізе як творчасці паасобных аўтараў, так і тых ці іншых твораў. У шчырых, але разважлівых словах ліцэісты не толькі падкрэслівалі станоўчыя бакі творчасці „белавежцаў“, але і давалі вострую крытычную ацэнку тых ці іншых з'яў у ёй. Усім ім прыходзіцца да спадобы ўлюбёнасць у прыгажосць роднага краю, любоў да беларускай мовы, пашана да простага чалавека, яго жыцця і працы, крытыка адмоўных з'яў у паводзінах людзей ці ў грамадскім жыцці і г.д. У той жа час у выказванях не чуваць было захаплен-

(Працяг на стар. 4)



**По роднай зямлі.** Зіма ў Плёсках. Фота Я. Цялушэцкага.

## Дом без фундамента стаяць не будзе

Нарада настаўнікаў беларускай мовы, якая адбылася 11 снежня ў памяшканні БГКТ (прысутнічалі віцэкуратар Станіслаў Роман, нам. дырэктара аддзела ўнутраных спраў Ваяводскай управы Эльяш Федаровіч, візітатар куратарыі асветы і выхавання Стэфан Крэнтоўскі, візітатар беларускай мовы Аляксандр Іванюк, дырэктар педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку Янка Зенюк, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік), выявіла немалыя праблемы.

Праблемы ў скарачэнні, адным сказам, можна было б спрэцызаваць выказваннем настаўніцы з Клейнік Веры Краўчук: „Дом без фундамента стаяць не будзе“.

Гэты фундамент нельга разглядаць як толькі матэрыяльную базу навучання. Без жадання і самаахвярнасці быў бы ён і так хісткі і няпэўны. Бо ці ж можна спадзявацца грэміяльнага паходу на неабавязковыя, дабравольныя ўрокі беларускай мовы там, дзе дырэктар школы і яго жонка — настаўніца з адпаведнымі кваліфікацыямі па беларускай мове не пасылаюць сваіх дзяцей на гэтыя ўрокі (такія факты, на жаль, маюць месца)?! Няўжо гэтыя людзі, заклікаными, здаецца, самой прыродай, каб быць сейбітамі культуры і ўсяго лепшага, светлага на глебе маладых чалавечых душ, не разумеюць, што мова вырашае аб захаванні нацыянальнай культуры, што, прывіваючы дзецям любоў і пашану да свайго роднага, мы вучым іх разумець і шанаваць агульнаграмадскую культуру?!

Як заўсёды, выявіліся клопаты з падручнікамі. У сваім выступленні візітатар А. Іванюк падкрэсліў, што дыдактычныя матэрыялы, якія выдаюцца ў Мінску, не заўсёды бываюць цалкам прыдатныя ў нашых умовах, але і так назіраецца іх нерытмічная дастаўка ў нашы кнігарні. Сярод амаль 70 школ, дзе выкладаецца беларуская мова, прадметныя кабінеты добра працуюць толькі ў бельскім і і гайнаўскіх ліцэях. У вясковай школе, нават калі будзе найлепшы настаўнік, такую працоўню стварыць амаль немагчыма. Лепш выглядае справа з метадычнымі куткамі.

Цяжка сёння праводзіць пазаўрочныя заняткі з даязджаючымі вучнямі, сказала Галена Тапалянская, настаўніца з Трасцянкі. Неабходна запэўніць вучням ліквідаваных, маленькіх школ, у якіх раней вывучалі яны беларускую мову, магчымасць вывучаць яе ў большых, зборных школах. Настаўнікі, гаварыла яна, павінны больш дбаць пра школьныя бібліятэкі, ад іх тут многае залежыць.

Не хапае кваліфікаваных кадраў (зрэшты, як па ўсіх прадметах у вясковых школах), сцвердзіў А. Іванюк. У мінулым навучальным годзе на 106 настаўнікаў беларускай мовы ў вясковым асяроддзі выкладала толькі шэсць магістраў беларускай мовы, чатыры магістры па іншых прадметах, 32 асобы, закончыўшы аддзяленне беларускай мовы ў настаўніцкай студыі, 36 — іншыя яе аддзяленні, 25 — педагагічны ліцэй і 5 чалавек без кваліфікацый. Выпускнікі аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта па розных прычынах аддаюць перавагу працы ў розных іншых установах, а мала хто працуе на ніве беларускай асветы. Можна разлічваць цяпер на студэнтаў завочнага аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, якія набіраюцца ў асноўным з настаўнікаў. Якраз адбыўся іх першы выпуск і нашай асвеце прыбыло амаль 20 магістраў.

Для паляпшэння навучання беларускай мовы велізарнае значэнне маюць курсы ў Мінску, якія праводзяцца штогод. Як падкрэсліла Галена Тапалянская, пашыраюць яны не толь-

Працяг на стар.4

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 228


## Літаратурны семінар

11 снежня 1977 года ў чытальніцкай зале „Арсенала" ў Беластоку адбыўся семінар літаратурнага аб'яднання „Белавежа", у якім, апрача „белавежцаў", прынялі ўдзел запрошаныя госці. Каб ушанаваць 85 гадавіну нараджэння Браніслава Тарашкевіча, запрошана была на семінар Аляксандра Бергман — аўтар кніжкі „Гутарка аб Браніславе Тарашкевічу", якая нядаўна выйшла з друку. Вельмі цікава і змястоўна раскрыла яна некаторыя кадры з яго жыцця і дзейнасці. Расказала таксама пра сваю працу над гэтай кніжкай, пра шлях яе нараджэння.

Другім госцем быў Ян Чопік-Лежахоўскі — паэт, празаік, перакладчык, які многа гаварыў аб сваім зацікаўленні творчасцю „белавежцаў" і выявіў ахвоту надалей перакладаць іх творы на польскую мову. Шырока выказаў свае думкі наконт літаратурнай дзейнасці нашага аб'яднання, выказаў таксама жаданне аказаць дзейсную дапамогу нам у зацікаўленні польскага літаратурнага друку гадавінай нашага аб'яднання.

Галоўнай тэмай семінара была тэма падрыхтоўкі да адзначэння 20-годдзя дзейнасці „Белавежы". У сувязі з гэтым былі прыняты пастановы:

1) Прадставіць на працягу 1978 года аўтарам, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё беларускага літаратурнага руху ў Польшчы, па поўнай літаратурнай старонцы.

2) З нагоды гадавіны падрыхтаваць на чэрвень спецыяльную, пашыраную літстаронку.

3) Выдаць на польскай мове на шапірографе літаратурную аднадзёнку „Белавежы".

**М. Шаховіч**

## „Белавежцы"

Набліжаецца дваццацігоддзе Беларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа". Яго літаратурныя сябры называюць нас самай трывалай, найбольш жыццяздольнай, пісьменніцкай групай у краіне. Гэта, несумненна, „белавежцы" ўзбагацілі агульнамастацкае ўяўленне — вобразам Беласточчыны.

Інакш і не магло быць. Беларускія таленты, вызваленыя народна-дэмакратычнай рэвалюцыяй, па сваёй універсальнай прыродзе маглі жывіцца ды расці толькі сокамі роднай зямлі, не надта і цалінай. „Белавежцы" не з'яўляюцца на ёй пачынальнікамі... Нашы папярэднікі гэта Васіль Світка з Мастаўлян (Кастусь Каліноўскі), гэта Арол з Гарадка (Пятэльскі), гэта Мурашка з Супраслі (Маслоўская), гэта Сяргей Крывец, паэт чатырох моваў...

Аднак, эпахальнасць „Белавежы" трапна прадчуў Яўген Кабатц — у палове шасцідзесятых гадоў, у малады „перыяд альманахаў" — калі пісаў ён на старонках сучаснай „Вспулчэснасці", што мы, мабыць, не столькі перанялі родную эстафету, колькі адшукалі яе, прытым, не адразу, з малечай свядомасцю найпершых... У дзень нашых нарадзін беластоцкая традыцыя была непрысутнай.

Наша аб'яднанне гэта першая літаратурная арганізацыя на Беласточчыне, хоць пачаткі пісьменскага жыцця ў Беластоку занатаваны ў гадах 1940-41. У пазнейшы час „белавежцы" ўдзельнічалі і ў стварэнні ды ўмацоўванні польскага літаратурнага руху ў горадзе, даючы гэтым прыгожы прыклад інтэрнацыяналізму, у прыватнасці, заўсёды тыповага інтэлектуальным адзінкам і, натуральным чынам, адпавядаючага карэнным інтарэсам кожнай нацыянальнай культуры як часткі сусветнай. Натуральнае і тое, што менавіта „белавежцы" надалей пашыраюць беластоцкі ўдзел на Парнасе, выступіўшы з ініцыятывай стварэння ў Беластоку клуба Саюза Польскіх пісьменнікаў, які спрыяе ўзнікненню літаратурнага асяроддзя ў ваяводствах паўночна-ўсходняй Польшчы, Сувалкаўскім ды Ломжынскім.

Сярод нас ёсць ужо чатыры члены Саюза Польскіх пісьменнікаў; ёсць аўтары, творчасць якіх з'яўляецца вядомай не толькі ў Польшчы і Беларусі, творы якіх перакладзены на мовы — польскую, чэшскую, нямецкую, украінскую, англійскую, аб творчасці якіх напісаны навуковыя працы, у ПНР і за мяжою. Наша скромная выдавецкая база з'яўляецца прычынай таго, што шматлікія творы або і цэлыя кніжкі некаторых „белавежцаў" хутчэй выдаюцца ў іншамоўным перакладзе, чымсьці на мове арыгіналу, што трэба лічыць вельмі прыемнай нам з'явай, хоць і не дарэшты радаснай.

Паслугоўваючыся тэрміналогіяй зацікаўленага намі прафесара Пражскага універсітэта Вацлава Жыдліцкага, можна сказаць, што адбылося зліццё „Белавежы" з усееўрапейскім літаратурным кантэкстам, адбыўся яе выхад з арэолу „гмінных ідалаў". *А. Макміллін*, англійскі аўтар навуковай гісторыі беларускай літаратуры, гэтак жа нядаўна ўважліва прыгледзеўся да „Белавежы", як да з'явы, якая ўсё ярчэй сігналізуе на літаратурнай карце беларускай моўнай тэрыторыі...

Цярплівы чытач няхай прабачыць мне па-імяніннаму хвалебную танацыю ў гэтым выказванні. Большасць нас, калі не ўсе, што сабраліся тады, у той чэрвеньскі дзень 1958 года, у журналісцкім клубе над памяшканнямі рэдакцыі „Нівы", нават і не марыла аб уласнай аўтарскай кніжцы ў вітрыне кнігарні. Мы, дзеці непісьменных бацькоў, благаслаўленыя на вялікую жыццёвую дарогу дочкі і сыны мацярок, заплаканых як грамнічныя свечкі, ішлі ў будучыню з рэвалюцыйным мандатам на рэчаіснасць, якая тады яшчэ знясмельвала па-старасвецку. I самае важнае, што мы пачалі рабіць, апавядаць аб жыцці людзям у свеце на роднай мове! На бацькоўскіх загонах вырасцілі мы спорны плён прыгожага слова.

**Сакрат Яновіч**

## ЭЛЕГІЯ НОЧЫ

*Калі заціхне гоман дня*
*І вечар прашуміць сварлівы —*
*Ох, як да Ночы цягнецца Зямля,*
*Да губ яе маўклівых!*

*Чорнавалосая багіні,*
*Штодзённа йдзем к тваім рукам,*
*Прасіць — не вечны адпачынак,*
*А забыццё пасмакаваць,*

*Паспрабаваць бяздоння часу*
*У міг адзін, ў шчыліне дні,*
*Калі жыццё стаіць ў вачах*
*Глытком адвечнай цішыні;*

*Пазнаць пустынны шлях прастораў,*
*Пакуль прылiў бязмежнага святла*
*Не пазалоціць зноў зямны наш*
*панадворак —*
*Да Ночы цягнецца Зямля.*

**Ян Чыквін**




## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### СОРАК ПЕРШАЕ

*Лісіца рыжая*
*Прабегла праз пралесак;*
*Не, не лісіца, толькі*
*восень,*
*Не іначай.*
*Падуе вецер,*
*Затанцуюць шумна бесы,*
*У вогненных хвастах*
*Лісцё заплача.*
*Яшчэ ў зямлі праменні,*
*Мабыць, не сканалі,*
*А цела глебы*
*Не памерла, не астыла,*
*І лета з восенню*
*На момант пастаялі,*
*І лета аддало*
*Сваёй сяброўцы сілу.*
*Лаўлю я цеплыню*
*Сваёй шчакой паўднёвай,*
*Ды халадок*
*Паўночную шчаку*
*аценіць.*
*І цела маё дзеліцца*
*На дзве паловы —*
*Адной я летні,*
*А другой ужо асенні.*
*Зямля мая!*
*Не саромлюся дэкларацый;*
*І слоў не сорамна*
*Вялікіх і прыгожых;*
*Заўсёды мела ты*
*І будзеш мець ты рацыю.*
*А я?*
*Што я!?*
*Напэўна горшы,*
*Чымсьці збожжа.*

**Алесь Барскі**

## ВЯРНІЦЕ ЯНУКУ ГОЛАС

**(Гэні Туронкавай прысвячаю)**

Быў у нашага Янука галасок, як той званочак. Вяртаецца Янук, бывала, са школы, дык у другім канцы вёскі яго чутно.

Дома маці штораз яму рот то бінтом заткне, то хлеба кавалкам, то яблыкам прынамсі, бо інакш з-за яго балбатні стрываць нельга было. Тэлевізар і той заглушыў бы.

А тут, маеш табе, бяда. Прапаў, разумееце, у хлапца голас. Зусім згінуў, ды так прытым, быццам бы яго ніколі і ў паміне не было.

Разяўляе Янук ляпку, мала сківіцы не вывіхне. Языком варочаць стараецца. І нічога!.. І ціха.. І голасу як не было, так і няма... Бяда!.. І скуль гэта нашэсце такое?

Плача маці. Бацька, час ад часу, хоць ката за хвост турзане, каб перабіць незвычайную ў хаце цішыню. А Янук маўчыць. Трэба шукаць нейкай рады.

Спачатку вырашылі паказытаць яго добра, пад пахамі ды пад пяткамі. Тады ўжо заенчыць пэўна. А што вы! Казыталі і пальцамі і нават пёрышкам гусіным. Паўгадзіны над ім мучыліся. Брыкаўся толькі, як той жарэбчык. Бацьку акуляры пабіў, дзеду палову барады амаль з коранем выдзер, а голасам не аказаўся.

Карысталіся і „кашай бярозавай", лякарствам даўнейшым, агульнавядомым, пры ўсіх хваробах, у гэтакім веку адпаведным. Бацька, значыцца, у лес схадзіў. Пруцікаў бярозавых, што больш гнуткіх, пару жменяў назрэзваў. Прыкладалі Януку і па „мяккім месцы", і па нагах нават. Прыкладалі і з левага і з правага боку. І з разгону прыкладалі, і з пацяжкаю. Нагавіцы на хлапца ўжо не ўлазяць — а ён маўчыць. Ні бэ, ні мэ, ні ку-ка-рэ-ку...

Паклікалі, урэшце, старую Хітрынскую, якая пра ўсё, што ў якім гаршку варыцца, ведае, а языка, калі б палову ў арэнду здала, то рэштаю шчэ ўсе вясковыя вуліцы падмесці дала б рады.

А як жа, кажа тая:

— Перапалох гэта ў хлопца будзе, нічога іншага. Перапалох напэўна — як піць даць.

— Які ізноў перапалох? — узмаліўся бацька. — Калі ж, гэта, яго самага ўсе сабакі ў вёсцы баяцца. Дзікім воям выюць, ва ўсе бакі кідаюцца, яго ўгледзеўшы.

— Дык сама ж бачыла, самая чула, — Хітрынская на тое. — Сяджу я сабе, ведаеце, аднойчы, каля аўтобуса, на лавачцы, што ля прыпынку, а там Янук ваш з хлопцамі гуляе. І вось панечка якаясьці, модная такая, увагу яму звяртае, чаму гэта ён, па-свойму, па-беларуску, значыцца, гаворыць. Дурны ён яшчэ ў вас. Мовы роднае заўстыдаўся. Язык, бы дугу, у другі бок сагнуць захацеў. Вось і трэснула ў ім, пэўна, нешта. Голас выскачыў, загубіўся недзе. Не ўмеў шанаваць, ды шукай ты яго цяпер, ліха ведае дзе і як, пры тым. Так, так. Так яно і будзе. Самая ж чула, сама бачыла.

Ды і Янук, які дагэтуль збоку стаяў, і слухаў, вушы развесіўшы, цяпер падбег, рукамі разводзіць, губамі моўчкі варушыць. Што так, што так, пэўна, гэта — паказвае. Ай-яй-яй!.. Падумаць толькі, людзенькі добрыя? Вось гэта бяда, дык бяда.

І пайшлі татка з мамкаю, Янука з сабою ўзяўшы, роднага, таго голасу шукаць. І ўсюды шукалі. Пад усе лаўкі, кусцікі заглядалі. Ва ўсё горла аукалі нават. А голас той ні гу-гу. Згінуў і знайсціся не хоча. Моцна, пэўна, абразіў яго Янук.

І надумалі тады, старыя дзеды ды бабкі, што выхаду іншага няма. Што трэба ісці Януку, з першымі праменнямі сонца, на той самы прыпынак, заклінаць там свой голас, з душы цэлай маліць, каб вярнуцца хацеў — дараваў тую крыўду.

І не паспеў, любенькія, першы сонечны бліск шэрай мышкай праз вёску прабегчы, калі Янук ужо тут — ужо на месцы. Дробная барада дрыжыць, вочы слязьмі запацелі, падгінаюцца, не свае быццам ногі. Чаго вусны нямыя выказаць не дадуць рады, у душы паўтарае. Мальбою моліць!..

Вярніся голас! Вярніся родны! І з тою мовай — што свая. Будзеш у пашане, пешчаны словам — не пагляджу ні на каго. Маёй будзь песняй, маім сумленнем, дарагой марай, думак імкненнем. Клянуся свята, на ўсё што люба, цябе, мой родны, больш не зракацца, ні за што!..

А вакол світае...

Святочнай печкай дзіцячы тварык збялеў. Вачаняты, упяленыя недзе на небасхіл, талерачкамі закругліліся. Роцік рыбкаю паветра ловіць. Ручаняты, не маючы за што схапіцца, у мальбе спляліся...

І вось ззяючая мярэжка зямлю ад неба аддзяліла. Вось стрэліў з яе ўгору прамень, першы, другі і трэці. І ўрэшце, пуцатай надзеяй, бы з-за станіка цыцка, выплюснулася сонца. Выплюснулася, разглянулася наўкола і асляпіла!..

Затрапятала маленькае цельца. Грудзі, дагэтуль абручом, здаецца, скаваныя, ва ўсю шырыню разышліся. Разняліся далоні — увесь свет у абдымкі схапіць гатовыя. І вырваўся на волю, аж недзе з-пад сэрца, з глыбіні нутра хлапечага, працяглы стогн:

„М-а-а-а-мо!..

**Юрка Геніюш**

НАРОДНЫЯ ТАЛЕНТЫ

# Дробна драбніца...

Найчасцей співаюць у дуэце:
*Дробна драбніца, дробна драбніца,*
*дробны дождж ідзе.*
*Ой, сабралася бедна галота,*
*мёд, гарэлку п'е...*

Зала адклікаецца задушэўнымі воплескамі, бо арлянскі дуэт — **Мікалай Лопух** і **Яўгеній Бала** — спяваюць прыгожа, матутна, ад сэрца і душы.

— Люблю я гэтую песню, — кажа Мікалай Лопух. — Яна напамінае мне маё дзяцінства...

Ён — пісьманосец. Штодзень разносіць розныя пасылкі, лісты і газеты жыхарам Орлі, Крывяціч, Шчытоў-Навадвораў і Дзенцялова.

— Ужо звыш 20 гадоў валаку на сваіх плячах гэтую пісьманосецкую сумку, аж згорбіўся пад яе цяжарам.

Сядзім у клубе Ваяводскай рады прафсаюзаў. Мікалай Лопух, Яўгеній Бала і яшчэ адзін арлянец, Кубаеўскі, выступаюць у мастацкай праграме „Балада пра салдацкі кубак".

— Ужо будзе без мала 20 гадоў, — кажа Мікалай Лопух, — як мы звязаліся з Жэнікам Бала і так разам спяваем у дуэце.

Мікалай Лопух успамінае свае дзіцячыя гады.

— Жылі мы ў вёсцы Пашкоўшчына. Зямлі мала, сям'я вялікая. Я нарадзіўся ў 1936 годзе. Даваеннага часу, зразумела, не памятаю. Затое, колькі разоў успомню сваё дзяцінства, заўсёды ў вачах паяўляецца пажар нашай вёскі. Спалілі яе гітлераўскія салдаты. Без бою, без нічога. Ужо нават былі і адступілі на захад, аставіўшы нас у спакоі. Мы ляглі спаць, рады, што ўрэшце пазбавіліся гэтай заразы. І раптам... ноччу... бацька пачуў гул машын. Вышаў паглядзець, што дзеецца. А гэта вярнуліся немцы, каб спаліць нашу вёску. Было лета, саламяныя стрэхі хутка займаліся ад запальных куль. Каб нас бацька не пабудзіў, магчыма і мы асталіся б пад попелам нашай хаты. Нейкі час жылі ў цёткі, у бацькавай сястры. Пасля пасяліліся ў Орлі, дзе побач кафлярні стаяла пустая хата. Далі бацьку гэтую кватэру ў замен за тое, што будзе пільнаваць разбураную кафлярню, каб яе цалкам не расцягнулі. Доўгі час ніхто нічога бацьку не плаціў, а есці трэба было... Тата быў шаўцом. Пачаў рабіць дзеравякі. Цяпер іх носяць найпрыгажэйшыя дамулькі, а тады... тады іншых ботаў не было. Маці наймалася да самых розных паслуг. Жала жыта, капала бульбу, мыла чужую бялізну... А нас восем галодных душ... каб хаця хлеба ўдосталь паесці... І ў школу трэба ісці. Ужо ж і так перарос. Дзевяты год пайшоў. У школу аднак трэба апрануцца, бо сорамна абарванаму...

Замоўк Мікалай Лопух, сумна галаву павесіўшы, а праз хвіліну ледзь чутна заспяваў: „*Ой, прышоў, прышоў дзядзька багаты, насміхаецца: адкуль жа гэта бедна галота напіваецца...*"

— Такая ў нас атрымалася ў жыцці дробна драбніца... — уздыхнуў ён і зноў пайшоў на сцэну.

Яго сям'і стала крыху лепш жыць, калі кафлярня атрымала грошы на зарплату, калі старэйшы брат пайшоў на работу, а за ім зараз жа і старэйшая сястра. Ён сам хадзіў у школу і пасвіў кароў, а затым прабаваў шукаць шчасця аж на Шлёнску. Год часу працаваў у шахце, а другі год вучыўся ў шахцёрскім тэхнікуме ў Хажове. Былі грошы, быў хлеб і да хлеба, аднак сум за роднымі старонкамі не даваў спакою. І ён вярнуўся ў сваю Орлю. Цяпер разносіць пісьмы, а калі трэба, дык і спявае.

Яго сябар па дуэце прайшоў падобны жыццёвы шлях, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. Раскажу пра яе другім разам, бо вось зноў нашых спевакоў клічуць на сцэну і зноў у зале гучыць іх згодны хор:

*Кума мая, кумачка, дзе жывеш?*
*Чаму ж мяне ў госцейкі не завеш?*

**Віктар Рудчык**

Прадукцыйныя прадпрыемствы ГС у Нараўцы дабіліся высокіх прадукцыйных поспехаў. Пякарня перавыконвае свае планавыя заданні ў сярэднім на 105%. За адзінаццаць месяцаў 1977 года яна перавыканала свой прадукцыйны план на 103,8%. У пякарні працуюць высокакваліфікаваныя кадры: ёсць пекарнічы майстар і два эканамічныя тэхнікі.

Напіткавытворчы завод шырока разгарнуў сваю прадукцыю. Дзякуючы зладжанай працы ўсяго рабочага калектыву выдатна ўзрастае прадукцыйнасць працы.

Гастранамічнае прадпрыемства (называюць яго гасподай) прадае штодзень у сярэднім 650 порцый супу і 300 абедаў. Найбольш для рабочых ляўкоўскай керамічнай фабрыкі, міжнароднага перагрузачнага пункта ў Семяноўцы, бельскага раёна публічных дарог, якое круглы год вядзе кансервацыю дарог, нараўчанскага прадпрыемства шматгалінавых паслуг, а таксама для школьнікаў гміннай зборнай школы.



## Прадукцыйны поспех



Нараўчанская пякарня рассылае хлебабулачныя вырабы не толькі ў прадажныя пункты ва ўласнай гміне, але і ў гміны: Белавежа, Гайнаўка і Нарва. На святы пякарня прапануе: стэфанкі, краянку з мармеладам, сметанковую бабку, кракаўскі сырнік, маковец, какосавыя струцлі і торты.

Завод газіраваных напіткаў у Нараўцы ў мінулым годзе выпусціў дадатковую прадукцыю агульнай вартасцю 111 тысяч злотых. Найбольш аранжады, клуб-колы, орангіна, цітро, хлебнага квасу і піва. (У 1976 годзе выпусціў ён на рынак прадукцыю вартасцю 236 тысяч злотых).

Сталовая сама вырасціла шмат капусты і іншай гародніны ды заквасіла 2 тоны капусты да ўласнага ўжытку на зіму.

За 11 месяцаў мінулага года гмінная спулдзельня ў Нараўцы выканала свой прадукцыйны план у 127,3% і дала прадукцыю вартасцю 3 мільёны 19 тысяч злотых.

**Я. Ц.**

## Дом без фундамента стаяць не будзе

(Працяг са стар. 1)

кі кругагляд настаўнікаў, бо паглыбляюць яго веды па прадмету; шмат увагі прысвячаецца там методыцы выкладання і этыцы настаўніка. Праграма заўсёды вельмі запоўнена, курсанты знаёмяцца з цікавейшымі гістарычнымі месцамі Беларусі, асабліва звязанымі з жыццём выдатных беларускіх паэтаў, — ёсць тады аб чым і дзецям расказваць.

А ад ведаў настаўніка, ад якасці яго працы і заангажавання, залежыць часта і ахвота вучняў да беларускай мовы, сцвердзіў у сваім дакладзе А. Іванюк. Нягледзячы на раптоўнае змяншэнне колькасці школ і вучняў, вывучаючых беларускую мову, якое наступіла ў 1973/74 навучальным годзе (звязана гэта было з рэформай асветы на вёсцы, а таксама з дэмаграфічным ніжам), там, дзе добра стаяла навучанне беларускай мовы, як, напрыклад, у школе № 3 у Бельску, вучні ходзяць на гэтыя ўрокі, як і раней, а вось ў Палічнай, дзе тыпова беларускае асяроддзе, праз год часу вучні перасталі на іх хадзіць зусім.

Настаўнікі з Бельскага беларускага ліцэя — дырэктар Аляксей Карпюк і Зінаіда Дзямянюк падкрэслілі вялікі рант тэматычных конкурсаў у дыдактычнай працы. Такія конкурсы пашыраюць веды вучняў і іх зацікаўленні. „Наша задача, — сказаў дырэктар А. Карпюк, — каб з добрага вучня зрабіць яшчэ лепшага, каб з поўным спакоем і правам мог ён здаваць у вышэйшую ўстанову".

Янка Зенюк прапанаваў апрацаваць парадніκі, у якіх больш вопытныя настаўнікі маглі б дзяліцца сваім вопытам. Але, як кажуць, пакуль суд ды справа, мы са свайго боку прапануем дзеля гэтага старонкі „Нівы".

**Ада Чэчуга**
Фота М. Гайдука



(Працяг са стар. 1)

# Удалы

ня дзівакаватымі ды вычурнымі пошукамі ў форме вершаў некаторых аўтараў, рознымі штучнасцямі ды калупаннем у брыдоце. А калі гаварыць пра вынік змагання паміж ліцэямі, то бясспрэчная перавага была на баку каманды з Гайнаўскага беларускага ліцэя. І пісьмовыя працы і вусныя адказы гайнаўчан былі самыя лепшыя, і таму журы прызнала **Янку Сурэлю** першае месца і галоўную ўзнагароду вартасцю 800 зл., другое месца — **Міраславе Лукша** і ўзнагароду за 750 зл., трэцяе — **Аліне Сельвясюк** і ўзнагароду за 700 зл. Самае лепшае, занятае прадстаўніком каманды Бельскага беларускага ліцэя, было чацвёртае месца і здабыў яго **Валянцін Анапюк**.

Самае важнае заключаецца ў тым, што надта вялікія былі пазнавальныя і выхаваўчыя вартасці гэтага мерапрыемства. Варта прыгадаць хоць бы некаторыя з іх. Конкурс спрыяў пашырэнню зацікаўлення літаратурным жыццём Беласточчыны, і перш за ўсё знаёмству з творчасцю членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Гэта асабліва прыемна ў сувязі з надыходзячым яго 20-ціґоддзем. Цікава, што шмат удзельнікаў конкурсу заўважала, як падрыхтоўка да элімінацый сталася нагодай да бліжэйшага і ўсебаковага пазнання гэтай надта цікавай формы праяўлення культурнага жыцця беларусаў у Народнай Польшчы. Стваралася не абы-якая магчымасць для развівання і ўдасканальвання літаратурнага аналізу — справа асабліва важная для школьнай моладзі. Удзельнікі конкурсу паказалі таксама вельмі добрае валоданне беларускай мовай, а і аказія да яго павышэння была тут вялікая.

З усяго ходу конкурсу напрошваўся заклік у адрас нашых літаратараў: „Пішыце цікава і больш — маеце многа ўважлівых і прыхільных вашым талентам чытачоў!" На вялікія словы прызнання і пахвалы за спраўную арганізацыю і дбайнасць пра конкурс заслужылі яго арганізатары, асабліва працаўнікі Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку, гарадскіх у Бельску і Гайнаўцы, а таксама гмінных бібліятэк. Не павінны мы адкладаць справу ў вялікі кошык, а зараз жа брацца за падрыхтоўку да аб'яўлення наступнага чытальніцкага конкурсу. Дагэтуляшнія абодва былі вельмі ўдалыя, і гэта добры знак на будучыню!

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## Кажуць, што...

*У Дубіцкай гміне распладзілася столькі паляўнічых, што цяпер са свечкай не знойдзеш тут ні цецярука, ні фазана, ні глухара. І не пачуеш іх голасу. А прыгожа, ідучы лесам, слухаць іх галасы. Прырода! Хутка, відаць, прыдзе чарга на курапаткі. Варвары ўсё знішчаць і з'ядуць.*

*М. Панфілюк*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XII**

**Постаці жанчын.** Два апавяданні: „Гора ўдавы Сымоніхі" і „Пяць лыжак заціркі" з аднаго боку прадаўжаюць тую тэндэнцыю, якая выступае ў творах, ужо нам вядомых. З другога боку, у гэтых двух апавяданнях маем дачыненне з пэўнымі новымі элементамі. Ва ўсіх папярэдніх творах, звязаных тэматычна з жанчынамі, рэчаіснасць, побыт, чалавечыя постаці былі паказаны праз прызму сумнага, адчайнага, трагічнага. У „Горы ўдавы Сымоніхі" і „Пяці лыжках заціркі" нягледзячы на тое, што істоту паказаных праблем у ніякім выпадку не назавеш вясёлай — выступае ў нейкай ступені гумарыстычны матыў. Пісьменнік, прадстаўляючы па сутнасці драматычныя падзеі, як бы іранізуе. Зразумела, што можна спрачацца, ці гэтая іронія патрэбна, ці яна на месцы, ці драматызм падзеі не павінен прымусіць пісьменніка да паслядоўна сур'ёзнай трактоўкі ўсёй справы. Было б аднак памылкай, калі б мы закінулі пісьменніку скалазубства, несур'ёзныя адносіны да чалавечага гора, лёгкадумнасць. У рускай літаратуры шырока распаўсюджана паняцце — смех праз слёзы. Вось з гэтым смехам праз слёзы і маем дачыненне ў названых апавяданнях Бядулі.

У „Горы ўдавы Сымоніхі" пісьменнік паказвае карціну сялянскага жыцця пазбаўленую якой-колечы прывабнасці. Вясковая хата, прымітыўныя прылады, самотная жанчына... і тут жа ў хаце вяпрук. Гэта ён з'яўляецца прадметам гонару і радасці Сымоніхі. Удава трактуе яго як блізкую сабе істоту, як члена сям'і. Вось у гэтай вялікай прывязанасці ўдавы да свайго гадунца і бачыць пісьменнік нешта смешнае і гумарыстычнае. Бядуля выразна падсмейваецца з выключнай эмацыянальнай прывязанасці Сымоніхі да вепрука і іранізуе, гаворачы аб тым, як жанчына марыць аб парасяці, як яго купляе і як пасля клапоціцца аб ім: „І песціць і няньчыць яна свінчо сваё — усім на дзіва: і малако купляе, і мукі, і хлеба, нават абаранкаў, як брахуны нашы кажуць".

Парсюк аднак здыхае, і разам з ім памірае адзіная радасць Сымоніхі. Упадаюць яе сілы, жыццё перастае мець якую-кольвек вартасць і, праўдападобна, не за гарамі дзень, калі памрэ Сымоніха. Твор амаль гіпербалічны, амаль сімвалічны, амаль смешны, а па сутнасці трагічны. Не мала ў ім праўды аб мінулым нашага народа і аб душы беларуса, у якой лірычнае і драматычнае, смешнае і трагічнае заўсёды стаяла ўпоравень.

У падобнай да прадстаўленага апавядання танацы ўтрымана таксама навелка „Пяць лыжак заціркі". Твор гэты характарызуецца выключным лаканізмам і дынамізмам падзеі. Калі паглядзець на апавяданне павярхнасна, дык можа здавацца, што пісьменнік кладзе галоўны націск на сітуацыйны камізм. Смешнае ў гэтым творы найбольш экспансіўнае, нагляднае. Не яно аднак з'яўляецца галоўным героем апавядання. Матэрыяльнае ўбоства сялянскай сям'і, хвароба гаспадара, многадзетнасць і самае страшнае для чалавека — голад, — вось „героі" навелы. Зразумела, што сённяшні малады чытач будзе прымаць гэты твор як нешта казачнае. І, праўдападобна, не зашчыміць яму сэрца. А ўсё гэта таму, што не ведае ён ніводнага з тых фактаў і з'яў, якія прадстаўлены ў апавяданні. Тым часам „Пяць лыжак заціркі" — гэта дасканалая і далёка не гіпербалічная карціна рэчаіснасці. Жаночыя постаці гэтага твора толькі знешне смешныя — унутрана яны драматычныя.

На падставе ўсіх разгледжаных дагэтуль апавяданняў, прысвечаных дзецям і жанчынам, можам сказаць, што Бядуля галоўным чынам паказвае дзяцей, пазбаўленых дзяцінства і жанчын, пазбаўленых жаночасці. І адны і другія гэта ахвяры трыумфуючага ў жыцці зла. І адны і другія не маюць ні магчымасці, ні сіл весці з гэтым злом змаганне.

# АБ СВЕЦЕ СТАРАВЕРАЎ

Кніга Э. Іванца. **„З гісторыі стараабрадцаў на польскіх землях у XVII-XX ст.ст.“*)**, што нядаўна паявілася ў выдавецкім цыкле „Працы Беластоцкага навуковага таварыства“, расказвае аб радаводзе, гісторыі і сучаснасці рускіх стараабрадцаў, якія жывуць і па сённяшні дзень на Мазурах і Сувальшчыне. Здавалася б, што гэтая тэма даволі адлеглая ад беларусазнаўства. Але гэта толькі на першы погляд, бо дзякуючы салідпасці і глыбіні даследавання ў кнізе закрануты шэраг праблем, непасрэдна звязаных з Беларуссю і беларусамі. І так, у часе праследаванняў настойлівых паслядоўнікаў старога рускага праваслаўнага абраду ў XVI-XVII ст.ст. патрыярхам Ніканам і яго паслядоўнікамі, значная іх частка знаходзіла прытулак і неабмежаваныя ўмовы для практыкавання сваіх рэлігійных абрадаў якраз на беларускіх землях у былой Рэчыпаспалітай. Варта прыгадаць, што на Гомельшчыне і Магілёўшчыне ў XVII-XVIII ст.ст. паўсталі вялікія цэнтры стараабрадчаства розных адценняў і схілаў. Меншыя групы іх былі рассеяны па ўсёй Беларусі, а нейкае водгулле гэтага веравызнання пранікла і ў асяроддзе беларускага насельніцтва Беласточчыны.

Доўгі час утрымоўваўся погляд, што стараабрадцы складалі герметычна замкнутыя ў сабе абшчыны, пеставаўшыя колішнія, вынесеныя яшчэ з Расіі, традыцыі і не дапускаўшыя нічога з таго асяроддзя, дзе яны жылі на беларускіх ці польскіх землях. На самай справе, як вынікае з даследавання Э. Іванца, у гэтай выдуманай герметычнасці былі аграмадныя трэшчыны, якімі не толькі пранікалі, але нават шырокай хваляй уліваліся ў побыт стараабрадцаў беларускія, украінскія, мазурскія і іншыя ўплывы. Яны, між іншым, ахвотна карысталіся выданнямі беларускага першадрукара Францішка Скарыны і не цяжка яшчэ сёння знайсці сляды ўплываў гравюр з гэтых выданняў на кнігах стараабрадцаў, асабліва ў надрукаваных па іх заказу ў Супрасльскай друкарні, а таксама пазней з іх уласнай друкарні ў горадзе Піш. Шмат што з штодзённага побыту, вопраткі, страваў, прыладаў працы стараабрадцаў мае бясспрэчны беларускі радавод, для прыкладу, стравы з бульбы, мяса і г.д. Гэтае ўздзеянне беларускага элементу на стараабрадцаў магло мець розныя крыніцы; яго ўнасілі ў рускае асяроддзе беларусы-стараабрадцы, яно трапіла туды яшчэ на Гомельшчыне і Магілёўшчыне, а таксама на Сувальшчыне і Мазурах, дзе старaверы жылі ў непасрэдным суседстве з беларусамі і г.д.

Кожнаму, хто цікавіцца мінулым і сённяшнім усходняй Славяншчыны, рэкамендую ўважліва прачытаць даследаванне Э. Іванца. Займальная і грунтоўная гэта кніга!

**М. Гайдук**

---

*) Eugeniusz Iwaniec, „Z dziejów staroobrzędowców na ziemiach polskich XVII—XX w.”, PWN, W-wa 1977, str. 296, cena 65 zł.

# З ЖЫЦЦЯ МІЛЕЙЧЫЦКАЙ ГМІНЫ

У гміннай партыйнай арганізацыі ў Мілейчыцах 304 члены і кандыдаты. Кожная вёска, за выключэннем салэцтва Любейкі, дзе было гэта немагчымым з увагі на малую колькасць жыхароў, мае сваю партыйную арганізацыю. Грамадска-гаспадарчае развіццё гміны — гэта штодзённая задача ў дзейнасці гміннага камітэта і партыйных арганізацый. Зямныя ўгоддзі і лясы займаюць большую частку Мілейчыцкай гміны. У сувязі з гэтым стараюцца выкарыстаць іх як найпаўней, каб і сабе і дзяржаве была як найбольшая карысць. На першым плане вырошчванне чатырох асноўных відаў збожжа і бульбы. Агульныя падлікі паказваюць, што збожжа займае 67% угоддзяў, а бульба 18,1%. З увагі на нізкую якасць глебы няма шырэйшых магчымасцей інтэнсіўна ўводзіць новыя віды збожжа. У гэтых умовах уся надзея ў агратэхніцы і павелічэнні колькасці штучных угнаенняў.

Наступным напрамкам у гаспадаранні гміны з'яўляецца жывёлагадоўля. У параўнанні з мінулым годам, хаця і невялікі, але наступіў узрост пагалоўя кароў. Горш з гадоўляй свіней. Тут назіраецца колькасны заняпад. Але ў апошні час былі палепшаны ўмовы і для яе развіцця. Узрасла агульная колькасць лёх. І запатрабаванні на іх паяўляюцца ў далейшым. Перашкаджае толькі тое, што ПОЗГ яшчэ дагэтуль не рэалізавала заказаў. Згодна з планам, жывёлагадоўля ў бягучай пяцігодцы значна ўзрасце. Мяркуюць, што ў 1980 годзе пагалоўе кароў павялічыцца да 5400 штук, а свіней — да 8000 штук. Плануюць, што ўзрасце таксама і ўраджайнасць. І так, з аднаго гектара павінны дасягнуць 27,3 цэнтнераў збожжа, а бульбы 250 цэнтнераў. Але сельская гаспадарка павінна перайсці на спецыялістычнае гаспадаранне, і сяляне павінны аб'ядноўвацца ў гурткі. Дапаможным пры гэтым будзе таксама значнае паляпшэнне на працяту апошніх двух гадоў выкарыстоўвання грунтаў з дзяржаўнага фонду зямлі, якія перадалі ў карыстанне СКР-ам і паасобным гаспадарам.

Жыхары гміны прымаюць актыўны ўдзел у партыйных пачынах. Супольнымі сіламі закончылі пабудову дарогі з вёскі Паканева на хутар Паканева, распачалі будаваць дарогу з Харашчэва на хутар Харашчэва, а таксама з Клімковіч у Мілейчыцы. Адначасова правялі шмат работ па добраўпарадкаванню: у Навасёлках, Сабятыне, Рагачах і Мілейчыцах.

**М. Шаховіч**



**Гарадскія замалёўкі.** Новая гасцініца ў Саколцы. Фота Я. Цялушэцкага.

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*СЕНАКОСНАЯ*




*Ой, гукну, гукну, нэхай матуля ўчуе,*
*нэхай для мэнэ вэчэроньку готуе.*
*Нэхай готуе вэчэру солодэньку,*
*нэхай постэле постіельку білюсеньку.*

Ад Феадосіі Баўтручук, год 75, вёска Войшкі гм. Юхновец, запісаў 9 лістапада 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.




*На ўрачыстай вечарыне, прысвечанай дзесятай гадавіне гуртка БГКТ у Гданьску, гданьскія самадзейнікі выступілі з „Люцынкай-інжынерыхай“ С. Яновіча.* *Фота М. Гайдука*

# Ляўкоўскі хор

Два гады таму назад заснаваўся хор на ляўкоўскай керамічнай фабрыцы. Вядзе яго таленавіты дырыжор Аляксандр Лукашук. Рэпетыцыі хору адбываюцца ў фабрычнай святліцы. Найбольш ахвотна збіраюцца жанчыны (18 асоб). Частка іх працуе на фабрыцы, а рэшта гэта жонкі рабочых, якія таксама тут працуюць. Ёсць і ахвотныя мужчыны, якія прыходзяць на рэпетыцыі, але іх усяго некалькі асоб.

Ляўкоўскі завадскі хор выступаў з канцэртамі ў Нараўцы, Ляшуках (на мінулагоднім беларускім фэстыне), ды двойчы ў Беластоку (у пачатку снежня мінулага года яго паўгадзінны канцэрт можна было паслухаць у Доме прафсаюзаў). У яго рэпертуары беларускія, украінскія, польскія і рускія песні. Самыя разнавідныя. Выконваюцца яны і задушэўна, і звонка, і мілагучна. Падабаюцца яны нават самым пераборлівым.

**(ця)**

*Разведка → ГАСПАДАРНАСЦІ*

# Канца будовы не відаць

Прадпрыемства сталярскіх паслуг у Гарадку выконвае будаўнічую сталярку: дзверы, вокны і г.д. Рабочыя працуюць у цяжкіх умовах (цесна і нязручна) і з-за гэтага правальваюць свае прадукцыйныя планы. Яны чакаюць заканчэння будовы новага корпуса прадпрыемства, якое восем гадоў будавала і не закончыла Ваяводскае прадпрыемства паслуг дзяржаўнай тэрэновай прамысловасці ў Беластоку. У мінулым годзе на будову прыйшлі мантажна-будаўнічыя брыгады Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы. Ідзе мантаж дмухаваў для збірання пілавін і пылу, некаторых станкоў, коміна кацельнай, электраўстаноўкі. Будова зацягваецца. ВУСП абяцае аднак давесці яе да канца ў гэтым годзе. Для гэтай будовы будзе ён юбілейны, дзесяты.

Ужо вядома, што калі новая сталярня будзе гатова, то і так не скора яна пачне прадукцыю. На перашкодзе гэтаму стала стадола аднаго з гарадоцкіх жыхароў. Яе прыдзецца ліквідаваць, паколькі яна зусім побач кацельнай. Але гаспадар не здаецца.

І так, рабочым у далейшым прыйдзецца працаваць у ранейшых, значыць нічым не лепшых умовах. У холадзе, без сталовай, без гардэроба. З-за гэтага і не павялічваецца прадукцыя, на якую ёсць вялікае запатрабаванне (многа ж зараз будуецца).

Усе рабочыя гарадоцкай сталярні змагаюцца за лепшую якасць прадукцыі ды намагаюцца выпускаць яе больш. Толькі ўмовы для гэтага ім не забяспечваюцца.

**Іван Непаседа**

*М. ШАХОВІЧ*

# З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**зміет** — снегавы занос, сумёт. О тото сніэгу дало. Гэн за сёлом такіх мітуов надуло, што аж дроты тэлефонны на сніэзі лежат. Ніяк за змітамі с сёла нэ выйедэш.

**копытнік** — выбітая конскімі капытамі дарожка. Гэта тое месца, якім ідуць коні, цягнучы воз. Што за куонь? Ні за што копытніка нэ трымаецця. Ліэзэ дэсь упэпэрэк замісь іті, як усіе, копытніком.

**куопно** — кепская дарога. Адносіцца гэта да зімы, калі многа снегу і выступаюць шматлікія калдобіны, у якіх можа спатыкнуцца конь. Чуть добрався до міеста. Вельмі куопно. Куонь так замучывся, што аш страх.

**крутюолка** — прыстасаванне для катання на лёдзе па кругу. Ай і крутюолка была! Як крутонут, то аж в вухах свішчэ. Тэпэр нэма такіх крутюолок.

**нанет** — зусім. Ніэ, нічого с того нэ будэ. Міколай нанет отказався. Нэ бачыў, моў і всё.

**нэ стыкатіся** — не спатыкацца. Ніэ, ніколі я с такім чымсь нэ стыкнулася. Спытайтэ сусіэда, можэ вуон чуў.

**плесті кошэліе** — гаварыць абы што. Назбірав діті і сідіт ціелы поранок, то й пліетэ ім кошэліе, замісь за роботу взятіся.

**поровэснік** — аднагодак. Іванув Сэргіей і муой Кузьма то поровэснікі. Я, Міколай — муой поровэснік і Міколаюв брат — то ціела наша кумпанія.

*(вёска Сакі, гміна Бельск)*

## Andrzej Dąbrowski



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:** Галіна Юзвюк з Барысаўкі, Крыся Шульц з Сяміціч, Галіна Себясевіч з Бельска.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што быццам мая маці хацела прымераць мне свой вэлюм, у якім яна калісь вянчалася. Калі яна пачала яго прымяраць мне, я заўважыла, што складаўся ён з белага чэпчыка і звычайнай нейлонавай гардзіны, якія цяпер вешаюць на вокны. Гэты вэлюм быў вельмі доўгі. Я здзівілася, што гэта гардзіна, але мама выясніла, што ў яе часы такія вэлюмы былі вельмі модныя. Пачаткова мама надзела мне на галаў чэпчык, а потым пачала прычапляць да яго рэшту вэлюма, але ў той час прыйшла да нас якаясь жанчына (якой я не памятаю), і хуценька зняла з маёй галавы белы вэлюм, а на тое месца надзела мне вэлюм з чорных карункаў. Я здзівілася і спытала, чаму гэта так, але мама хуценька выясніла мне, што гэта так трэба, бо калі я буду прымяраць белы вэлюм, тады буду нешчаслівая ў будучыні. Яшчэ хачу адзначыць, што ў мяне кароткія валасы, а ў сне мела пасярэдзіне вялікі кок... Дарагі Астроне, заспакой маю цікаўнасць і як найхутчэй надрукуй з выясненнем, нічога не ўкрываючы, мой сон. Я яшчэ маладая. Мне 17 год.

„Цікаўная"

**„Цікаўная"!** Калі хочаш праўды, дык вось яна. Дзякуючы нейкай жанчыне, вынікнуць у цябе нейкія клопаты, затрудненні; а могуць гэта быць цяжкія абавязкі, якія непадсілу табе. Трымайся, адным словам. Ага, можа ў цябе нічога не выйсці з любоўнага спаткання (карункі былі чорныя). Не гаруй — будзе яшчэ лепшае, табе ж усяго семнаццаць. Зрэшты, гэтую надзею падаюць твае буйныя валасы ў сне.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны



Дарагое Сэрцайка! У мяне адзін-адзюсенькі сын. Хлопец заўсёды быў добры, паслухмяны, добра вучыўся. Закончыў тэхнікум, пайшоў у войска. Сумна нам без яго было вельмі, але неяк прамінулі два гады службы і наш Мірэк вярнуўся дамоў. Стаў на работу. Калі быў яшчэ ў арміі, я яму ўжо і кандыдатку на жонку прыкмеціла. У нашым блоку з бацькамі жыве. Дзяўчына добрая, добра зарабляе. І набрыдкая. Ён не знаў раней, бо нядаўна ў гэтым блоку мы пасяліліся. І вось як вярнуўся Мірэк з войска, я яму і наладзіла з ёй сустрэчу. Няцяжка было, бо з бацькамі яе мы падружылі і яна таксама ў нас нярэдка бывала. Сын ветліва аднёсся да яе, час ад часу наведваў яе дома. І я цешылася, што хутка вяселле рабіць будзем. А тут, бачу, інакш справа выглядае. Ад нейкага часу сын сабе вечарком некуды выходзіць, або з працы пазней вяртаецца. Я думала, мо да гэтай дзяўчыны заходзіць. Але разведала справу і бачу: не. У іх ён даўно не быў. Давай я тады і пытаць, дзе ён бадзяецца, што дома не ўседзіць. Мала-памалу ён і прызнаўся. А мне аж валасы дуба сталі. Кажа, што дзяўчыну мае — у яе і праседжвае. Вельмі яму падабаецца і, бадай, жаніцца будзе. Цяпер просіць, каб я дазволіла дахаты яе прывесці, нам прадставіць і аб вясельных справах пагаварыць. Я знервавалася, накрычала на яго, ды яшчэ і муж тут не сцярпець, кажа, хай жэніцца з кім хоча. А я ўсю ноч не спала, не ведаю што рабіць, як яго адмовіць ад тае дзяўчыны.

Ірэна з Беластока

**Ірэна!** Дай жа ты хлопцу волю. Ён ужо не дзіця, а дарослы мужчына. І што як што, але дзяўчыну на жонку сам павінен сабе выбраць. Гэта ўжо яго асабістая справа, бо пачуцці, якія ў сям'і найважнейшыя, яму ніхто не заменіць. І калі дзяўчыну кахае, хай тады і жэніцца з ёю.

**Сэрцайка**

## Ці ведаеце, што...

...Вадкі шакалад быў калісьці напіткам толькі для мужчын моцных і „з аганьком". Так прынамсі лічылі ў XVII-XVIII стагоддзях французы, іспанцы і партугальцы. Жанчыны ў той час лічылі, што дзякуючы шакаладу можна... пахудзець і стаць больш прывабнай для мужчын.

Цяжка сёння паверыць у тое, што можна пахудзець дзякуючы шакаладу, калі прымем пад увагу той факт, што ў 100 грамах гэтага прысмаку знаходзіцца аж 500-600 калорый. Рэкамендуецца ён якраз худым, стомленым ці вядучым актыўны спосаб жыцця людзям. Тады, зразумела, уплывае карысна і на выгляд гэтых людзей.

Шакалад, які спажываем мы сёння, толькі ў нямногім напамінае даўнейшы. Шакалад у плітках, цвёрды, вынайшлі толькі ў XIX стагоддзі швейцарцы. І, зразумела, зусім іншы яго састаў. Калі ў ранейшым шакаладзе знаходзілася 30 прац. какаовага масла, дык сёння яго дадаюць зусім невялікую колькасць для смаку.

Сёння шакалад робяць перш за ўсё з какаовага парашку, цукру і розных кампазіцый раслiннага тлушчу. І так шакалад робяць не толькі ў нас. Іншая справа, што якасць шакалада, яго смак зусім не пагоршыліся. Гэта ўжо, аднак, таямніца вытворцаў.

Сёння шакалад любяць усе. Ядуць яго ад дзіцячых гадоў. Нічога дзіўнага: ён смачны і здаровы, а акрамя таго, мае вельмі прыемны арамат. Спажываем яго як у цвёрдым стане, так і ў вадкім. У апошнім — у асноўным дзеці.

Найбольш шакалада спажываюць амерыканцы. З'ядаюць яны яго аж 10 кілаграмаў у год на аднаго чалавека. За імі ідуць швейцарцы — 8,6 кг. Англічане і бельгі — 6,9 і 6,6 кілаграма. Найменш шакалада ядуць японцы: усяго 1,1 кг на аднаго чалавека ў год. Што датычыцца нас... спажыванне шакалада ў нас сярэдняе, але хутка расце. Сёння шакалад перастаў ужо лічыцца прысмакам толькі для дзяцей. Усё больш мужчын і жанчын падзяляюць пагляд старых партугальцаў, французаў і іспанцаў. Кажуць нават, што мадам Пампадур свой поспех у караля Людвіга XV здабыла дзякуючы шакаладу.

**Гаспадыня**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Д. жыла пры бацьку, а яе брат А. пайшоў у прымы. Жонка яго мае гаспадарку, але ён працуе ў горадзе, а зямлю аддае ў арэнду. Пасля смерці бацькі засталася 10-гектаровая гаспадарка, якую абрабляе Д. Брат А. патрабуе сплат і з гэтай мэтай хоча падаць у суд. Д. згаджаецца даць брату частку гаспадаркі, але той не думае працаваць на гаспадарцы і хоча сплаты грашыма, а Д. гаворыць, што не мае магчымасці даць гэткую сплату. Ці суд прысудзіць яму грашовыя сплаты, калі Д. на гэта не згодзіцца? Ці суд можа прысудзіць А. частку гаспадаркі, калі ён зямлі не хоча?

АДКАЗ: Суд, які разглядае справу аб падзеле спадчыны, не звязаны прапановамі ўдзельнікаў працэсу. Тэарэтычна беручы, суд можа падзяліць гаспадарку, або прыдзяліць аднаму з наследнікаў, а другому прысудзіць сплаты, зразумела, калі закон дазволіць на падзел гаспадаркі. У даным прыкладзе суд не мог бы прыдзяліць А. частку гаспадаркі, паколькі ён не працуе на гаспадарцы. Ён не атрымае таксама сплат, бо сплаты належаць тым, хто працуе на індывідуальнай гаспадарцы, або з'яўляецца членам сельскагаспадарчага кааператыва, або трывала няздольны да працы. Сплаты А. мог бы атрымаць толькі ў выпадку, калі ён мае кваліфікацыі для кіравання сельскай гаспадаркай, г.зн. закончыў сельскагаспадарчую школу або курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і заявіў у судзе або ў натарыуса аб гатоўнасці працы на індывідуальнай гаспадарцы або ў сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве.

## Этнаграфічнае акенца



*Вуліца Заблоцкая ў Мілейчыцах.* *Фота М. Шаховіча.*

## А. ВОІНАЎ

## КАМЕН-ДАНЦКАЯ ГАДЗІНА



### ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

*РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

### ТРЫЦЦАТАЕ КАСТРЫЧНІКА

— Раптам яны вырашылі, што нас ужо няма, і перасталі слухаць? Сёння ж ужо трыццатае кастрычніка!..

Лена палічыла на пальцах.

— Дваццаць трэцяга верасня мы прызямліліся. Да першага — восем дзён, ды ў кастрычніку трыццаць. Колькі ж усяго?.. Трыццаць восем! Падумаць толькі! Блукалі больш як пяць тыдняў!

Надзя корпалася з рацыяй. Провад антэны ніяк не хацеў залазіць пад плінтус, над якім, адстаўшы ад сцяны, звісалі выцвілыя шпалеры. Добры тайнік! У невялікім пакоі рыпучая шафа, стары стол, жалезны, расхістаны, адзін на дзвюх ложак. Можна сказаць — царская абстаноўка. І ніводнага зацішнага кутка! Рацыя ледзь змясцілася ў кошыку пад тумбачкай, прыкрытая не столькі для маскіроўкі, колькі для ўласнага Надзінага супакаення; кавалкам старога паркалю.

Першы выхад у эфір, на сувязь! Пасля столькі дзён цяжкіх выпрабаванняў, трывог, хваляванняў. І раптам, калі затрачана столькі сіл, яны, магчыма, адрэзаны ад усяго свету?

Цяпер рацыя на тумбачцы. Надзя чаруе над ручкамі настройкі. Лена прыслухоўваецца да кожнага шолаху за шчыльна зачыненымі дзвярыма.

— Ну, як у цябе там? Усё ў парадку?..

Чорныя навушнікі на тонкім, аблягаючым галаву раменьчыку надаюць Надзі адчужанасць. Востры позірк яе цёмных вачэй скіраваны ў адно месца.

— Ну, Леначка, пачынаю!

Зусім лёгенька, быццам ледзь дакранаючыся да чорнага гузічка ключа вялікім, указальным і сярэднім пальцамі, правая рука яе пачынае ўздрыгваць. Першы выклік групы „Ада" пайшоў у эфір... Невялікая паўза, і зноў яе рука выбівае кропкі і працяжнікі — а ці не згубяцца яны ў хаосе гукаў, галасоў, навальнічных разрадаў? Ці слухаюць іх у штабе?.. А нямецкі пеленгатар? Ці не паварочвае ён ужо сваю антэну ў іх бок?!

Рука паднялася з ключа, і рэзка шчоўкнула ручка пераключальніка.

У пакоі ціха. Лена замерла, не міргаючы глядзіць у звужаныя Надзіны зрэнкі, баючыся прапусціць імгненне, калі яна пачуе водгук.

— Маўчаць!!

— Выклічы яшчэ раз.

— Небяспечна!

Зноў шчаўчок. Ціхае пастукванне ключа. І зноў у навушніках шалёны піск марзянак. Колькі часу патрэбна радысту, каб адгукнуцца? Лічаныя секунды! Не, іх, напэўна, ужо не слухаюць. Стаміліся, стаміліся чакаць!..

І ў той момант, калі Надзя ўжо хацела з адчаем сарваць з галавы навушнікі, у рознабой шумаў далёкіх і блізкіх станцый урэзаўся новы тэмбр. Яна яшчэ не паспела прыняць ніводнай групы, і радыст яшчэ не закончыў перадачу кодавага абазначэння сваёй рацыі, а Надзя ўжо закрычала:

— Адказваюць! Адказваюць, Ленка!.. — і на твары яе з'явіўся такі па-дзіцячаму шчаслівы выраз, што Лена, забыўшыся аб небяспецы, кінулася да яе, абняла за плечы і пацалавала.

Праз некалькі мінут першая тэлеграма расшыфравана: штаб віншуе з прыбыццём, просіць паведаміць адрас і дзень, калі пачнецца перадача паведамленняў.

— Адрас перадай зараз!.. Скажы, што пачнём рэгулярна працаваць з шостага лістапада.

Небяспечна, але як жа не адказаць! У штабе, напэўна, падумаюць, што з імі зноў штосьці здарылася.

Праз хвіліну Надзя атрымала „квітанцыю" — „Зразумеў!" — і выключыла рацыю.

— Ну, Ленка, жывём!

Дзяўчаты прынялі рацыю, прывялі пакой у парадак.

Цяпер трэба падумаць, як жыць далей. Грошай заставалася зусім мала. Цётка Маня, далёкая сваячка Лены, сказала ім заплаціць начальніку раённай паліцыі Крыцуленку за яго каштоўную паслугу: прапіска — справа вялікая. Ён чалавек патрэбны і яшчэ не раз спатрэбіцца. Акрамя таго, дзяўчаты купілі сабе цёплыя рэчы, і вось цяпер у іх засталося яшчэ на тыдзень. Прыкідвалі і так і гэтак — нічога не атрымлівалася. І раптам Лена пляснула далонню аб край стала.

— Надзька! Здаецца, я ведаю, хто нам дапаможа.

— Няўжо зноў пойдзеш да цёткі Мані?

— А Валя?

Надзя ўздыхнула:

— Давай паспрабуем... Толькі б нам зноў у якую-небудзь непрыемнасць не ўліпнуць.

**(Працяг будзе)**

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАСЛУГІ

У мінулым годзе ў Супраслі быў адкрыты першы паслуговы павільён (526 м²) паслуговага каапературатыва працы. Гэта шматталінны павільён. Прапануе наступныя паслугі: кравецкія (жаноча-мужчынскія), шкляныя, электра-механічныя, графікі шрыфту і цырульніцкія (жаноча-мужчынскія).

Найбольшым поспехам карыстаюцца паслугі шкляныя, кравецкія і электра-механічныя. **(гай)**

## Патрэбна лазня

Шудзялава будуецца. Узніклі новыя магазіны, гаспода, каапературўны банк, малачарня, цэнтр здароўя і іншыя будынкі. Але ў Шудзялаве вельмі патрэбна лазня. Мясцовы лекар Ежы Ціхонскі ўжо нават апрацаваў план пабудовы лазні ўласным коштам. Патрэбны толькі пастанова гмінная рады і грамадскі пачын пры нефаховых работах. Я перакананы, што жыхары Шудзялава ахвотна памогуць працай і грашыма. Патрэбна ахвота ўлад. Бо без ахвоты няма работы. **Віт**

## На канферэнцыі ССПМ

Нядаўна ў Дубічах Царкоўных адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя Саюза сацыялістычнай польскай моладзі. Яна абмеркавала і прыняла праграму дзейнасці на 1978-79 гады, а таксама выбрала новыя гмінныя ўлады арганізацыі і дэлегата на ваяводскую канферэнцыю.

У Дубіцкай гміне дзейнічае 11 гурткоў ССПМ. Запланаваны новыя гурткі. пры гміннай управе, сельскагаспадарчым каапературыве ў Старакорніне і механізацыйным пункце паслуг дубіцкага сельгасгуртка. У 1977 годзе некаторыя члены ССПМ сталі кандыдатамі ПАРП.

У склад гміннага праўлення арганізацыі ўвайшло 16 актывістаў, старшынёй выбраны Рыгор Шварц. Гэтую функцыю выконвае ён ад 1973 года, і яго арганізатарскі талент высока ацаніла канферэнцыя. Старшынёй рэвізійнай камісіі выбраны Мікалай Самасюк, а дэлегатам на ваяводскую канферэнцыю — Аляксандр Голуб з вёскі Еленка.

**М. Панфілюк**




### „БУСЁЛАК“

*Над ракой стаіць пасёлак,*
*Ў ім жыве Васёк Бусёлак.*
*На ўсе рукі майстраваты,*
*Будаваць умее й хаты.*
*Уся сям'я ў яго ўзарова,*
*У жыцці-быцці талкова,*
*Ў гаспадарцы кожна дзела*
*Зробіцца на час, умела.*
*Мо й таму Васёк Бусёлак*
*Багацей на ўвесь пасёлак.*
*Усяго дабра даволі —*
*Брак аднак Бусёлку волі.*
*Бо Бусёлак (варта знаць)*
*Надта любіць выпіваць.*
*Піў бы мо без утрымання,*
*Каб не жонка яго Аня.*
*Жонка Аня у Бусёлка*
*Ў прыкладзе ўсяго пасёлка.*
*Маладзіца баявая,*
*Сціпла, й сілу волі мае.*
*Як дагледзіць дзе муж п'е,*
*Безлітосна яго б'е:*
*Крапівой пякучаю,*
*Мокраю анучаю.*
*На вачах ўсяго пасёлка*
*Прад сабою прэ Бусёлка.*
*Што ж, анучай не скалечыць,*
*Крапіва пякуча лечыць.*
*Ён не адбіваецца,*
*Толькі ухіляецца,*
*Ды клякоча: — То ж не гожа,*
*Анечка, скаране божа!*
*Я знясці знявагу рад,*
*Абы спакой, абы лад.*
*Гоман чуецца ў пасёлку:*
*— Ну й характар у Бусёлка,*
*Непаўторны ён у нас.*
*Ну й Бусёлак!!!*

**Дзядзька Квас**

## Паляўнічыя, дзе вы?

Колькі сёння ў нас паляўнічых — цяжка палічыць. Аднак, калі трэба, іх няма. Вось у ваколіцах Руткі і Грабаўца швэндаюцца адзічэлыя сабакі. Яны нямала шкоды робяць сялянам. Часта душаць авечак. Нашы паляўнічыя пра гэта ведаюць, але іх „дурныя“ сабакі зусім не цікавяць. Ім бы прыстрэліць зайца, будзе на стале смачны суп. Нават ім чамусьці цікавей застрэліць ката пад стогам, хоць каб не каты — мышы па нашых галовах хадзілі б.

Займіцеся шкоднікамі, паляўнічыя!

**М. Панфілюк**

## Хто паможа бабулі?

Ужо другі раз ехала ў Варшаву. У падношанай вясковай вопратцы, захутаная ў вялікую хустку. Ехала з Тымянкі ў сталіцу. У клунку хавала ліст у „Хвалю-77“, а ў сэрцы гаркоту і смутак.

Такую бабулю сустрэў я ўпершыню. Калі села ля мяне ў купэ „Варшавяка“ (цягнік Гайнаўка—Варшава), нават мне ў думцы не мільганула, што гэта вясковая жанчына праз некалькі мінут пачне раскрываць тайну сваёй долі. Размову пачалі мы выпадкова. Мая спадарожніца памыліла мяне проста з нейкім сваім знаёмым. А калі я спытаў, чаго едзе ў Варшаву, пачала гаварыць:

— У маёй хаце змяшчаецца пошта. 7 год, ад 1963 да 1970, я працавала там прыбіральшчыцай. Працуючы на пошце, я мела выпадак, паламала руку. Пасля бальнічнага лячэння цяжка мне стала працаваць на той пасадзе. Я звольнілася з работы. І доля, відаць, мая такая, — працягвае з слязінкай у вачах Люба Дудзін, — што на старыя гады прыходзіцца бадзяцца па свеце, застацца адной, без сям'і, без сродкаў да жыцця. Ужо ад нейкага часу намагаюся атрымаць пенсію, хаця б 200-300 зл. на харчаванне. Ужо 69 гадоў мне мінула, працаваць цяжка, а жыць то трэба! І адкуль узяць грошы? 10 год жывем мы з мужам у сепарацыі. Як жа цяжка жыць пад адным дахам з чалавекам, які не загаворыць словам да цябе. А да таго за маю хату атрымоўвае грошы з пошты. І дзе тут праўда?..

Доўгая гісторыя бабулі з Тымянкі. Сэрца маё пачало шчымець ад болю ўсё больш, гледзячы на сумны твар, парысаваны маршчынамі. Няўжо так можна адхіліцца ад чалавека? Чаму ніхто не паможа ёй?!

**Ул. Сідарук**

## Семянюкі — прыродныя таленты

Ніканору Семянюку каля 70-ці гадоў. Гэта прыродны талент. У сваім жыцці пабудаваў каля 80-ці дамоў. Работа яго чыстая, акуратная. А як акно зробіць, то ўжо вада ніколі з яго не пацячэ. Сёння ён мала займаецца сваім рамяством, гады і здароўе не дазваляюць. Але мае добрага наследніка. Сын яго, Міхась, пайшоў па бацьку, таксама дасканалы столяр і людзі не нацешацца яго работай. Другі сын, Уладзімір — дасканалы слесар і каваль (пісала „Ніва“). Семянюкі — прыродныя таленты.

**М. Панфілюк**

## Новае прадшколле

Пад канец 1975 года ў Супраслі пачалі будаваць новае прадшколле. Будзе ў ім 120 месц. Кошт пабудовы звыш 7 млн. зл. Будуе яго Беластоцкае прадпрыемства камунальнага будаўніцтва № 2. Тэрмін заканчэння пабудовы — IV квартал 1979 г. Жыхары мястэчка, каб прыспешыць пабудову, памагаюць грамадскай працай. У мінулым годзе, напрыклад, грамадскім чынам працавалі тут пры фаховых работах рамеснікі мэблевага каапературыва „Праца“, а пры нефаховых — моладзь Аб'яднаных школ механізацыі сельскай гаспадаркі.

**(гай)**

**ТОЛЬКІ СКНАРА І ЛЯНІВЫ НЕ ВЫПІСВАЕ „Ніву“**

## Хоць плач, няма дзе гуляць у мяч

У вёсцы Слоя Шудзялаўскай гміны быў сельскі гарод (каля гектара). Так яго і называлі „Сельскі гарод“. Пасля камасацыі гэты гарод стаў дзяржаўным фондам зямлі. А гэтым фондам гаспадарыць гміна. Яна (а ў сапраўднасці былы яе старшыня У. Лісоўскі) ў 1972 годзе перадала гэты кавалак зямлі ў арэнду аднаму гаспадару са Слоі. Цяпер гэты гаспадар пасе там сваіх кароў і каня.

Моладзь звярталася да начальніка гміны, каб гэту зямлю вярнуць і прызначыць на спартыўную пляцоўку (да арання зямля гэтая не прыдатна). Начальнік адказаў, што гэты гарод не надаецца і на спорт, бо блізка лінія высокага напружання. Тады моладзь зрабіла сабе спартыўную пляцоўку пад лесам. Чатыры гады гулялі тут у мяч. Але надлясніцтва ў Валілах заарала гэтую пляцоўку і пасадзіла на ёй лес. Цяпер маладым хоць плач, няма дзе гуляць у мяч! **Віт**

## На этапе пуску



*Службовы сакратар аддзела ПТТК у Белавежы Васіль Скепка..*

У лістападзе 1976 года ў Белавежы быў заснаваны аддзел ПТТК. Службовым сакратаром назначылі Васіля Скепку. З ім я і правёў размову наконт спраў, якімі жыве аддзел.

— Адзін год існавання гэта мала, каб разгарнуць шырокую дзейнасць, — гаворыць ён. — Пакуль што прабуем актывізаваць членаў гурткоў ПТТК з нашага раёна, зацікаўляць іх працай на турысцка-краязнаўчай ніве. Увогуле плануем павысіць лік гурткоў з 6 існуючых (403 члены) да 8. Прыступаем таксама да прапаганды кваліфікаванага турызму пешага, веласіпеднага і лыжнага, асабліва сярод мясцовай школьнай моладзі.

Многа ўвагі прысвячаем наладжванню работы бюро абслугоўвання турысцкага руху ПТТК у Белавежы. Многа спраў вырашыў нам экскурсаводчы курс (кастрычнік 1976 — май 1977). Дзякуючы яму прыбыло нам 34 экскурсаводы. Цяперашні экскурсаводчы састаў у ліку 104 чалавек дае магчымасць належней абслужыць турыстаў, прыязджаючых у Белавежу.

„Падглядаем“ мерапрыемствы іншых аддзелаў. „Падглядаем“ дзейсна. На ваяводскім злёце ПТТК занялі мы нават IV месца. Затым на VII цэнтральным злёце краязнаўчага актыву ў Венгерскай Гурцы прадстаўлялі ваяводскую краязнаўчую камісію. Апрача таго, нашы члены ўдзельнічалі ў ваяводскім злёце ў Пульку, што каля Супраслі, у велькапольскім індывідуальным горным рэйдзе і агульнапольскім рэйдзе металістаў — Расточэ-77.

Не зрабілі мы яшчэ нічога бліскучага, але думаю, што аснову для гэтага маем. Запрашаю на гутарку праз некалькі год.

**П. Байко**
Фота аўтара

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „СТЫД АТРЫМАЦЬ ТАКІ КВІТ“, „Ніва“ № 47/1134 ад 20 лістапада 1977 года.**

**Адказвае: WYDZIAŁ FINANSOWY URZĘDU WOJEWÓDZKIEGO W BIAŁYMSTOKU.**

W związku z notatką zamieszczoną w nr 47 (1134) tygodnika „Niwa” pt. „Wstyd otrzymać taki kwit” poruszającą sprawę formatu pokwitowań wydawanych na wpłaty wnoszone z tytułu zobowiązania pieniężnego — Wydział Finansowy Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku uprzejmie informuje, że:

Na kwoty wpłacone przez rolników z tytułu zobowiązania pieniężnego sołtysi wydają pokwitowania z kontokwitariuszy. Obecny wzór kontokwitariuszy (Min. Fin. 7340) został powszechnie wprowadzony na obszarze całego kraju od dnia 1 stycznia 1971 r. Przez wprowadzenie kontokwitariuszy wyeliminowano dużą ilość księgowań na kontach indywidualnych, bowiem kontokwitariusze zastąpiły trzy oddzielne urządzenia księgowe takie jak: karty kontowe, imienne wykazy zobowiązanych oraz kwitariusze przychodowe. Każde konto w kontokwitariuszu zawiera 10 pokwitowań przeznaczonych na dwa lata podatkowe, stąd też niewielkie rozmiary tych pokwitowań (2 cm×15 cm). Format pokwitowania wystarcza jednak na wpisanie na jednej stronie numeru konta, daty przyjęcia wpłaty, okresu którego wpłata dotyczy, kwoty wpłaconej na poczet należności bieżącej względnie zaległości, wysokości pobranego dodatku na zwłokę i kosztów egzekucyjnych oraz sumy razem cyframi i słownie, a na następnej stronie — imienia i nazwiska oraz adresu wpłacającego.

Poza znacznymi oszczędnościami papieru, wyeliminowaniem dużej ilości bardzo pracochłonnych czynności księgowych — stosowanie kontokwitariuszy pozwoliło w dużym stopniu uprościć i usprawnić pobór i ewidencję zobowiązania pieniężnego od rolników.

Z up. Wojewody
A. Piszczatowski
Z-ca Dyrektora Wydziału

**Да публікацыі „АБ КЛЯШЧЭЛЕЎСКІМ СКР-ы“, „Ніва“ № 47/1134 ад 20 лістапада 1977 года.**

**Адказвае: SPÓŁDZIELNIA KÓŁEK ROLNICZYCH W KLESZCZELACH.**

W odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w tygodniku „Niwa” z dnia 20 listopada 1977 roku — SKR w Kleszczelach uprzejmie informuje:

Spółdzielnia Kółek Rolniczych w Kleszczelach na obecnym etapie nie jest jeszcze w stanie zapewnić w terminie i wszystkie usługi dla rolników, obsługuje bowiem trzy gminy i posiada 2400 ha gruntów własnych. Niemniej jednak czynimy wszystko, aby zabezpieczyć potrzeby rolników na usługi mechanizacyjne.

Za 10 miesięcy br. dla gminy Czeremcha SKR wykonał usługi wartości 600 347 zł, co świadczy o tym, że rolnicy tej gminy w szerokim zakresie korzystają z usług SKR.

Na pracę agregatu omłotowego we wsi Czeremcha SKR nie miał reklamacji. Była wprawdzie drobna awaria, ale została usunięta.

Dyrektor SKR
mgr P. Saniukowicz

**Да публікацыі „ЯК ТРАПІЦЬ У ЛІПІНЫ?“, „Ніва“ № 47/1134 ад 20 лістапада 1977 года.**

**Адказвае: NACZELNIK GMINY W HAJNÓWCE.**

**Na podstawie art. 167 i 177 KPA § 22 ust. 2 Uchwały nr 151 Rady Ministrów z dnia 30 lipca 1971 roku w sprawie organizacji przyjmowania, rozpatrywania i załatwiania skarg i wniosków (M. P. z dnia 7.08.1971 r., nr 41, poz. 260),** Urząd Gminy w Hajnówce po zbadaniu notatki prasowej z dnia 20.11.1977 r. w sprawie oznakowania drogi z Lipin do Hajnówki, wiodącej przez Puszczę Białowieską, wyjaśnia co następuje:

Przedmiotowa droga nie należy do kategorii dróg lokalnych. Jest drogą typowo leśną, podlegającą Zarządowi Lasów Państwowych, konkretnie Nadleśnictwa Hajnówka. Spełnia ona przede wszystkim funkcje gospodarczo-leśne. Biorąc pod uwagę walory Puszczy Białowieskiej, jej znaczenie przyrodnicze oraz gospodarcze, nie zachodzi potrzeba informacyjnego oznakowania tego ciągu drogowego.

Faktem jest, że z drogi tej w pewnym stopniu korzystają zarówno mieszkańcy Lipin jak i m. Hajnówki. Nie jest to jednak jedyne połączenie tych miejscowości. Spełniając postulaty wnoszone od kilku lat przez mieszkańców Lipin, na początku listopada ubiegłego roku oddano do użytku nową drogę o nawierzchni żwirowej długości 1,1 km, łączącą Lipiny z Hajnówką. Jest to bliższe i dogodniejsze połączenie komunikacyjne.

Jeśli chodzi o tablicę osiedleńczą wsi Lipiny, to faktycznie była ona uszkodzona i słabo czytelna. Została ona wymieniona w pierwszej połowie grudnia 1977 roku.

Naczelnik Gminy
Jerzy Bujnowski




**М. Лук'янюк.** Напісалі пра „Крынку“ ў „Кажуць, што...“, а тут яшчэ і верш на тую тэму. Ці не зашмат гонару вашым гандлёўцам? У вершы „Сустракаліся“ ёсць гумар, бяда з вывадам: „Слухай жонкі, а не маці“. Бойцеся бога, чаму вы вучыце?

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

# Каляндар "Нівы" 1978 г.











| СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | МАЙ | ЧЭРВЕНЬ |
|---|---|---|---|---|---|
| **1 19 Н Новы год** | 1 19 С Арсенія | 1 16 С Фёдара | 1 19 С Клаўдзія | **1 18 П Свята Працы** | 1 19 Ч Дзень дзіцяці |
| 2 20 П Ігната | 2 20 Ч Яўфімія | 2 17 Ч Льва | **2 20 Н Сяргея** | 2 19 А *Радаўніца* | 2 20 П Аляксея |
| 3 21 А Пятра | 3 21 П Яўгенія | 3 18 П Яўгенія | 3 21 П Якава | 3 20 С Гаўрыіла | 3 21 С Канстанціна |
| 4 22 С Анастасіі | 4 22 С Ляонція | 4 19 С Карніла | 4 22 А Ісакія | 4 21 Ч Януарыя | **4 22 Н Васілісы** |
| 5 23 Ч Паўла | **5 23 Н Генадзія** | **5 20 Н Запусты** | 5 23 С Лідзіі | 5 22 П Віталія | 5 23 П Ігара |
| 6 24 П *Куцця* | 6 24 П Ксеніі | 6 21 П Яўгеніі | 6 24 Ч Арсенія | 6 23 С *Юрыя* | 6 24 А Мялеція |
| 7 25 С *Раждж. Хр.* | 7 25 А Віталія | 7 22 А Антона | 7 25 П *Благавешч.* | **7 24 Н Валянціна** | 7 25 С Ферапонта |
| **8 26 Н Сабор Пр. Баг.** | 8 26 С Марыі | 8 23 С Дзень Жанчын | 8 26 С Аллы | 8 25 П Марка | 8 26 Ч *Вазняс. Гасп.* |
| 9 27 П Сцяпана | 9 27 Ч Дзмітрыя | 9 24 Ч Тараса | **9 27 Н Матроны** | 9 26 А Дз. Перамогі | 9 27 П Фядоры |
| 10 28 А Агаты | 10 28 П Яфрэма | 10 25 П Парфіра | 10 28 П Сцяпана | 10 27 С Сымона | 10 28 С Ігната |
| 11 29 С Марка | 11 29 С Ігната | 11 26 С Пракопа | 11 29 А Марка | 11 28 Ч Віталія | **11 29 Н Фядосіі** |
| 12 30 Ч Анісіі | **12 30 Н Трох свяціц.** | **12 27 Н Масленая** | 12 30 С Івана | 12 29 П Мемнона | 12 30 П Ісакія |
| 13 31 П *Шчодры вечар* | 13 31 П Мікіты | 13 28 П Васілія | 13 31 Ч Веніяміна | 13 30 С Якуба | 13 31 А Ермія |
| 14 1 С *Новы год* | 14 1 А Васілія | 14 1 А Антаніны | 14 1 П Марыі | **14 1 Н Тамары** | 14 1 С Валерыяна |
| **15 2 Н Сяргея** | 15 2 С *Срэценне Гасп.* | 15 2 С Фядота | 15 2 С Ціта | 15 2 П Барыса | 15 2 Ч Нікіфара |
| 16 3 П Малахіі | 16 3 Ч Сямёна | 16 3 Ч Яўтропія | **16 3 Н Мікіты** | 16 3 А Цімафея | 16 3 П Паўлы |
| 17 4 А Феакціста | 17 4 П Ісідара | 17 4 П Паўла | 17 4 П Іосіфа | 17 4 С Пелагеі | 17 4 С Марфы |
| 18 5 С *Куцця* | 18 5 С Агаты | 18 5 С Іраіды | 18 5 А Платона | 18 5 Ч Адрыяна | **18 5 Н Тройца** |
| 19 6 Ч *Хрышч. Гасп.* | **19 6 Н Хрысціны** | **19 6 Н Аркадзія** | 19 6 С Мяфодзія | 19 6 П Іова | 19 6 П *Дзень Св. Духа* |
| 20 7 П Іана Хр. | 20 7 П Парфена | 20 7 П Васілія | 20 7 Ч Марціна | 20 7 С Ніла | 20 7 А Валерыі |
| 21 8 С Георгія | 21 8 А Хведара | 21 8 А Феафілакта | 21 8 П Ірадзівона | **21 8 Н Івана** | 21 8 С Фёдара |
| **22 9 Н Філіпа** | 22 9 С Нікіфара | 22 9 С *40 мучанікаў* | 22 9 С Вадзіма | 22 9 П *Мікалая* | 22 9 Ч Кірыла |
| 23 10 П Рыгора | 23 10 Ч Валянціны | 23 10 Ч Кандрата | **23 10 Н Вербніца** | 23 10 А Таісы | 23 10 П Антаніны |
| 24 11 А Феадосія | 24 11 П Усевалада | 24 11 П Георгія | 24 11 П Анціпа | 24 11 С *Прапалавенне* | 24 11 С Варфаламея |
| 25 12 С Таццяны | 25 12 С Аляксея | 25 12 С Сымона | 25 12 А Васілія | **25 12 Ч Божае Цела** | **25 12 Н Усіх Святых** |
| 26 13 Ч Якуба | **26 13 Н Зоі** | **26 13 Н Вялікдзень** | 26 13 С Артамона | 26 13 П Дзень Маці | 26 13 П Анны |
| 27 14 П Ніны | 27 14 П Канстанціна | **27 14 П Вялікдзень** | 27 14 Ч Антона | 27 14 С Ісідара | 27 14 А Мяфодзія |
| 28 15 С Гаўрыіла | 28 15 А Анісіма | 28 15 А Аляксандра | 28 15 П Анастасіі | **28 15 Н Пахома** | 28 15 С Амоса |
| **29 16 Н Леанілы** | | 29 16 С Ульяны | 29 16 С Ірыны | 29 16 П Фёдара | 29 16 Ч Ціхана |
| 30 17 П Антона | | 30 17 Ч Аляксея | **30 17 Н Вялікдзень** | 30 17 А Сцяпана | 30 17 П Мануіла |
| 31 18 А Кірылы | | 31 18 П Кірыла | | 31 18 С Аляксандра | |

| ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 18 С Ляонція | 1 19 А Макрыны | 1 19 П Андрэя | **1 18 Н Зоф'і** | **1 19 С Усіх Святых** | 1 18 П Платона |
| **2 19 Н Іуды** | 2 20 С *Ільі* | 2 20 С Самуіла | 2 19 П Трафіма | 2 20 Ч Арцёма | 2 19 С Аўдзея |
| 3 20 П Афанасія | 3 21 Ч Сымона | **3 21 Н Фадзея** | 3 20 А Міхала | 3 21 П Іларыёна | **3 20 Н Пракопа** |
| 4 21 А Юльяна | 4 22 П Марыі | 4 22 П Агафоніка | 4 21 С Андрэя | 4 22 С *Казан. Ік. Б. М.* | 4 21 П Увядзенне |
| 5 22 С Галакціёна | 5 23 С Трафіма | 5 23 А Ірынея | 5 22 Ч Іоны | **5 23 Н Ігната** | 5 22 А Валяр'яна |
| 6 23 Ч Іосіфа | **6 24 Н Барыса** | 6 24 С Георгія | 6 23 П Іраіды | 6 24 П Іана | 6 23 С *Аляксандра Н.* |
| 7 24 П *Іана Хрысц.* | 7 25 П *Ганны* | 7 25 Ч Варфаламея | 7 24 С Уладзіслава | **7 25 А В. Кастр. рэв.** | 7 24 Ч *Кацярыны* |
| 8 25 С Фяўроніі | 8 26 А Ермалая | 8 26 П Наталіі | **8 25 Н Сяргея** | 8 26 С Дзмітрыя | 8 25 П Клімента |
| **9 26 Н Давіда** | 9 27 С *Панцеляймона* | 9 27 С Пімена | 9 26 П Іана | 9 27 Ч Марка | 9 26 С Інакенція |
| 10 27 П Іанны | 10 28 Ч Прахора | **10 28 Н Анны** | 10 27 А Пімена | 10 28 П Іова | **10 27 Н Якуба** |
| 11 28 А Сяргея | 11 29 П Серафімы | 11 29 П *Усяч. гл. І. Хр.* | 11 28 С Вячаслава | 11 29 С Анастасіі | 11 28 П Сцяпана |
| 12 29 С *Пятра* | 12 30 С Валянціны | 12 30 А Аляксандра | 12 29 Ч Дз. Войск. П. | **12 30 Н Зіновія** | 12 29 А Нектарыя |
| 13 30 Ч 12 апост. | **13 31 Н Юліты** | 13 31 С Генадзія | 13 30 П Рыгора | 13 31 П Нікадзіма | 13 30 С *Андрэя* |
| 14 1 П Кузьмы | 14 1 П Макавеяў | 14 1 Ч Сымона | 14 1 С *Пакр. Пр. Баг.* | 14 1 А *Кузьмы* | 14 1 Ч Навума |
| 15 2 С Юліты | 15 2 А Сцяпана | 15 2 П Маманта | **15 2 Н Канстанціна** | 15 2 С Афонія | 15 2 П Авакума |
| **16 3 Н Анатолія** | 16 3 С Кузьмы | 16 3 С Анфіма | 16 3 П Дзяніса | 16 3 Ч Іосіфа | 16 3 С Іана |
| 17 4 П Андрэя | 17 4 Ч Еўдакіі | **17 4 Н Майсея** | 17 4 А Ерафея | 17 4 П Сымона | **17 4 Н Варвары** |
| 18 5 А Сяргея | 18 5 П Ноны | 18 5 П Раісы | 18 5 С Пятра | 18 5 С Рыгора | 18 5 П Савы |
| 19 6 С Валянціна | 19 6 С *Праабр. Гасп.* | 19 6 А Рамана | 19 6 Ч Фамы | **19 6 Н Аляксандры** | 19 6 А *Мікалая* |
| 20 7 Ч Фамы | **20 7 Н Дамеція** | 20 7 С Іана | 20 7 П Юльяна | 20 7 П Фядота | 20 7 С Амбражэя |
| 21 8 П Пракопа | 21 8 П Леаніда | 21 8 Ч *Раждж. Багар.* | 21 8 С Таісы | 21 8 А *Міхала* | 21 8 Ч Патапа |
| **22 9 С Свята Адрадж.** | 22 9 А Дзмітрыя | 22 9 П Анны | **22 9 Н Якуба** | 22 9 С Анісіфара | 22 9 П Ганны |
| **23 10 Н Антона** | 23 10 С Рамана | 23 10 С Пятра | 23 10 П Яўлампія | 23 10 Ч Радзівона | 23 10 С Фамы |
| 24 11 П Вольгі | 24 11 Ч Раісы | **24 11 Н Сяргея** | 24 11 А Зінаіды | 24 11 П Віктара | **24 11 Н Данілы** |
| 25 12 А Іларыя | 25 12 П Аляксандра | 25 12 П Юльяна | 25 12 С Андроніка | 25 12 С Іана | **25 12 П Раждж. Хр.** |
| 26 13 С Серапіёна | 26 13 С Максіма | 26 13 А Валяр'яна | 26 13 Ч Веніяміна | **26 13 Н Нікіфара** | **26 13 А Яўгенія** |
| 27 14 Ч Анісіма | **27 14 Н Міхея** | 27 14 С *Уздз. Кр. Гасп.* | 27 14 П Параскевы | 27 14 П Філіпа | 27 14 С Апалона |
| 28 15 П Уладзіміра | 28 15 П *Усп. Пр. Баг.* | 28 15 Ч Мікіты | 28 15 С Яўфімія | 28 15 А Сымона | 28 15 Ч Паўла |
| 29 16 С Юліі | 29 16 А Дзяміда | 29 16 П Людмілы | **29 16 Н Лонгіна** | 29 16 С Мацвея | 29 16 П Феафаніі |
| **30 17 Н Маргарыты** | 30 17 С Мірона | 30 17 С Веры | 30 17 П Васія | 30 17 Ч Рыгора | 30 17 С Азарыя |
| 31 18 П Емяльяна | 31 18 Ч Іларыёна | | 31 18 А Іосіфа | | **31 18 Н Зоі** |



**Чытайце і распаўсюджвайце "Ніву"**



